■ ЭКСКУРСІІ

# Філіпаны багатыя на жаніхоў, грыбы і ягады

Вёска Філіпаны знаходзіцца ў шасці кіламетрах ад Астраўца. Гэта, бадай, адна з самых чыстых, утульных і прыгожых вёсачак раёна. Ляжыць яна ля дарогі, што вядзе на Міхалішкі, Свір, Полацк. У старыя часы гэтую дарогу так і называлі – Полацкі тракт.

Асноўная рыса Філіпан – акуратныя дамы на адзінай вуліцы, празрыстае, чыстае паветра, паколькі лясы літаральна абступаюць з двух бакоў сялянскія пабудовы. Лясы тут розныя: бярозавы гай, ельнічак, сасоннік. Таму заўсёды ў іх поўна народу ад ранняй вясны і да позняй восені. Багатая гэтая мясцовасць як на грыбы, так і на ягады. Вяскоўцы расказваюць, што, пакуль бульба зварыцца, яны паспяваюць у бярэзнік збегаць ды пяць–сем падбярозавікаў зрэзаць на суп. А ўжо якіх толькі ягад тут не збіраюць! На старых прасеках у чэрвені суніцы паспяваюць, крыху пазней – не лянуйся, збірай толькі – чарніцы ды маліны, а са старых балатоў журавіны восенню вёдрамі, бывае, цягаюць. Шчодры лес – ад таго, напэўна, і людзі тут заможныя. Пра гэта гавораць дыхтоўныя, дагледжаныя хаты, паабапал засаджаныя пладовымі дрэвамі. У такія дні, як цяпер, бадай, ля кожнага дома ўбачыш гаспадара за работай. А хто працаваць ужо не можа з–за старасці (а такіх большасць у вёсцы), той ужо толькі на лавачцы сядзіць, на сонейку грэецца. Але час цяпер летні, таму, часцей за ўсё, праходзячы праз вёску, бачыш вяскоўцаў у агародах, за работай.

* * *

Яшчэ ў XIX стагоддзі ўся тая мясцовасць, дзе ляжыць цяперашняя вёска, была скрозь пакрытая лясамі і кустоўем. І толькі ў пачатку XX стагоддзя свабодныя ад зараснікаў землі перайшлі ва ўладу да памешчыка Качана. Праўда, кажуць, у час першай сусветнай вайны гэты маёнтак быў разбураны нямецкімі войскамі. Затым тутэйшы ўчастак зямлі купіў жыхар вёскі Дзірмуны Сайкоўскі. Другі ўчастак набыў Багдановіч. Сайкоўскі пабудаваў у 30-я гады дыхтоўны каменны будынак, у якім сёння размяшчаецца бібліятэка–музей і клуб. З 1936 года, яшчэ калі гаспадар жыў у гэтым доме, палову яго аддаў пад школу. Вучыцца ў тыя гады маглі далёка не ўсе, таму вучняў тагачасная школа мела толькі 10 чалавек. Але ўжо ў 1939 годзе іх было 30, а з 1949 тут дзейнічала сямігодка.

**Візітная картка вёскі**

| | |
|---|---|
| Колькасць сем'яў, што там жывуць | 55 |
| з іх шматдзетныя | 2 |
| усяго жыхароў | 132 |
| працаздольныя | 58 |
| пенсіянеры | 62 |
| дзеці да 15 год | 12 |

Асноўныя падзеі ў гэтай мясцовасці праходзілі пасля Вялікай Айчыннай вайны, у 50-я гады, калі ішла арганізацыя першых калгасаў. Сюды пачалі з'язджацца людзі з хутароў. Ужо пад канец 50–х у Філіпанах налічвалася 25 гаспадарак.

* * *

Сваім гідам па сучасных Філіпанах я выбрала мясцовага бібліятэкара **Вольгу Савіцкую**. Яна, па родзе сваёй дзейнасці, дасканала ведае кожны дом, кожную сям'ю у вёсцы. Жанчына працуе ў бібліятэцы з канца 80-х гадоў. Стварыла тут этнаграфічны куток, дзе сабрала практычна ўсе прылады па ткацтве, што дазваляе прасачыць увесь тэхналагічны працэс.

Па словах Вольгі Іосіфаўны, найбольш распаўсюджанае прозвішча ў Філіпанах – Дрэма. А яшчэ часта сустракаюцца Блашкевічы. Старажылы ў вёсцы – **Юльяна Блашкевіч і Соф'я Сыс**. Гэтыя жанчыны практычна равесніцы – з 1910 і 1909 гадоў нараджэння. Жыццё пражылі годна, як яны самі лічаць, па-хрысціянску. Не гнявілі бога, шчыра працавалі на сябе і на дзяржаву, у свой час павыходзілі замуж, выгадавалі дзяцей.

Ёсць у вёсцы і свае ордэнаносцы – **Іван Арлоўскі і Лявон Блашкевіч**. Абодва за баявыя заслугі ўзнагароджаныя ордэнамі Вялікай Айчыннай вайны II ступені. Для іх абодвух вайна скончылася толькі ў 1946 годзе, калі вярнуліся ў родную вёску. Сёння гэта паважаныя ў Філіпанах людзі. І хоць сіл ужо нямнога, але сякую–такую гаспадарку трымаюць. У гэтым ім, праўда, дапамагаюць дзеці.

* * *

Бракуе ў Філіпанах толькі маладых сем'яў. А без іх, як вядома, вёска асуджаная на выміранне. Ды не варта пра сумнае будучае. Сёння ўсё ж звіняць тут дзіцячыя галасы. А з надыходам лета тут і ўвогуле шматлюдна, бо ў бабуль і дзядуль самы найлепшы летнік для гарадской дзетвары.

Юныя філіпанскія жыхары, па словах Вольгі Іосіфаўны, не толькі, як усе дзеці, жартаўнікі і гарэзы, але і актыўныя чытачы ў яе бібліятэцы, а таксама цудоўныя артысты на розных ранішніках і святах. Выдатныя дзеткі – **Руслан, Раймонд і Артур** – растуць у маладой сям'і **Уладзіміра і Ялапты Паршутовічаў**. Гэта на дзіва ветлівыя, прыкладныя і лагодныя дзеці – так адзываюцца пра іх вясковыя дарослыя. Добры хлопчык–пачатковец расце і ў сям'і **Тадэвуша і Таццяны Вішнеўскіх**. Гаспадар працуе механізатарам у мясцовым калгасе, а яго жонка – старшай медсястрой у доме–інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых, што знаходзіцца ў вёсцы Дубнікі. Таццяна, дарэчы, выконвае ролю "хуткай дапамогі" у вёсцы: што дзе з кім здарыцца – усе бягуць найперш да яе, бо ведаюць, што яна ні на ўкол, ні на параду не паскупіцца. Родам Таццяна са Шчучынскага раёна, прыехала сюды па размеркаванні на два гады ды так і засталася. Цяпер яны з мужам набылі ўласную хаціну, бо доўгі час жылі з бацькамі. А паколькі дом іх у Філіпанах, то, па ўсім бачна, гэтая сям'я тут надоўга.

– Прывыкла за 9 год да гэтых людзей, да гэтых хат, лесу, – так тлумачыць свой выбар Таццяна. – А што да работы далекавата, то гэта не бяда, было б здароўе. Як пабудзеш на рабоце з шызафрэнікамі ды алігафрэнамі, то дадому як на крылах ляціш – палюбавацца яркімі кветкамі ў палісадніках, паслухаць пошчак салаўя, прайсціся з кошыкам па грыбных месцах.

* * *

Але самай адметнай рысай Філіпан з'яўляецца наяўнасць нежанатых хлопцаў. Іх тут больш за дзесятак – высокія і нізкія, бялявыя і чарнявыя, якім за трыццаць і маладзейшыя. Дзяўчат такога ўзросту вельмі мала, а вось патэнцыяльных жаніхоў шмат. Прыходзяць хлопцы ў клуб вечарамі ў шашкі–шахматы пагуляць, стаіць для іх тут і тэнісны стол. Іншы раз хлопцы не вытрымаюць, ды і скінуцца на пляшку–другую. Ад суму, відаць. А што яшчэ застаецца рабіць, калі нявест не хапае? Так што майце гэта на ўвазе, дзяўчаты з рэгіёна, толькі ў Філіпанах вы знойдзеце працавітых, а галоўнае, памяркоўных жаніхоў. Прыязджайце! Толькі, калі ласка, не блытайце Філіпаны з Філіпінамі.

**Экскурсію па вёсцы правяла Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**



**На галоўнай вуліцы Філіпанаў.**



**Міхаіл Арлоўскі са сваёй кабылай ідзе ў нагу па жыцці.**



**Сям'я Юркойцаў: Юліна, 14-гадовы сын Андрэй і Людміла Сыс на ферме.**



**Гэтаму дубу трыста год.**



**За прылаўкам работнік філіпанскага магазіна Тарэса Мядзвецкая.**



**Абед скончыўся, можна не чакаць.**



**Юльян Юркойць на ферме: хвіліна адпачынку.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Адрыў ад «Лунінца» павялічыўся

**08.10 Вейна-Днепр (Магілёў) – Маладзечна 1:3 (0:2)**

**Галоўны арбітр** – Мяцельскі (Мінск), 300 гледачоў.

**Галы:** (88); Сысой (8), Сідарэнка (44), Шаўроў (54-пен).

**Папярэджанне:** Вострыкаў.

Сідарэнка (Дараховіч, 53) Шаўроў
Вострыкаў
Тартоўскі (Млечка, 57) Вільтоўскі (Лявончык, 60)
Міхалёў
Бычкоўскі
Сысой Рагуновіч
Муравейнікаў
Рубацкі

Нашы землякі хутка зрабілі сваю справу. На восьмай хвіліне пасля вуглавога ў выкананні **Тартоўскага Сысой** прыняў мяч у штрафной, як след апрацаваў яго і дакладным ударам паразіў вароты. Замацавалі перавагу, калі **Сідарэнка** адгукнуўся на добрую передачу **Шаўрова** і на апярэджанні нагою падвоіў лік. Шаўроў забіваў з пенальці, прызначанага за парушэнне правілаў супраць Тартоўскага. Потым маладзечанцы ўжо ўсімі думкамі перанесліся да наступных матчах, разумеючы што расплёскваць свае эмоцыі ў выйгранай гульні не мае сэнсу.

Нёман – Рагачоў-ДЮСШ-1 6:0, Граніт – Лунінец 1:1, Керамік – Дынама-Юні 0:1, Зорка-ВА-БДУ – Тарпеда 2:0, Орша – Палессе 5:1, ЗЛіН – Трактар 1:1, Хімік – Свіслач-Дах 2:1.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Маладзечна | 25 | 18 | 5 | 2 | 59-12 | 59 |
| 2. | Лунінец | 25 | 17 | 5 | 3 | 45-12 | 56 |
| 3. | Граніт | 24 | 15 | 2 | 7 | 41-30 | 47 |
| 4. | Нёман | 25 | 13 | 4 | 8 | 46-27 | 43 |
| 5. | Свіслач-Дах | 25 | 13 | 2 | 10 | 37-33 | 41 |
| 6. | Тарпеда | 25 | 12 | 5 | 8 | 41-30 | 41 |
| 7. | Керамік | 25 | 12 | 4 | 9 | 50-33 | 40 |
| 8. | Орша | 25 | 11 | 6 | 8 | 41-35 | 39 |
| 9. | Зорка-ВА-БДУ | 24 | 11 | 6 | 7 | 38-28 | 39 |
| 10. | Дынама-Юні | 25 | 10 | 3 | 12 | 39-40 | 33 |
| 11. | Рагачоў-ДЮСШ-1 | 25 | 8 | 9 | 8 | 34-38 | 33 |
| 12. | Трактар | 25 | 8 | 5 | 12 | 37-38 | 29 |
| 13. | Хімік | 25 | 7 | 7 | 11 | 33-38 | 28 |
| 14. | ЗЛіН | 25 | 6 | 8 | 11 | 16-21 | 26 |
| 15. | Вейна-Днепр | 25 | 1 | 2 | 22 | 19-73 | 5 |
| 16. | Палессе | 25 | 0 | 1 | 24 | 13-101 | 1 |

**Бамбардзіры:** Курыловіч – 15; Вадз. Байко (абодва – Керамік), Таран (Тарпеда) – па 14; Правалінскі (Орша) – па 12...**Турчыновіч**, **Шаўроў** – па 9.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**14.10 15-00 Маладзечна – Хімік (Светлагорск)**
+1=0-0 2-1. У першым крузе 2:1 (Турчыновіч, Лукін) на выездзе
**14.10 Мазыр – Смаргонь**
**15.10 Беліндзяржстрах-БДПА (Мінск) – Металург**
+2=0-0 8-4. Летась 4:2 на выездзе і 4:2 дома
**18.10 Керамік (Бяроза) – Маладзечна**
+1=0-0 3-0. У першым крузе 3:0 (Турчыновіч – 2, Лукін) дома
**18.10 Вадаканал-Транзіт (Брэст) – Смаргонь**
У першым крузе 1:1 (Чарнуха) дома

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**01.10 Смаргонь – Баранавічы 2:1 (1:1)**

**Галы:** Іваноў (7), Шпакоўскі (62); (38).

**Склад:** Пясецкі, Курак, Шагойка, Якубіцкі, Юркевіч, Іваноў, Дукса, Чарнуха (Карабінскі, 80), Дзегілевіч, Селіванаў (Відук, 67), Шпакоўскі (Шаблінскі, 77).

Праход **Дуксы** на 7 хвіліне па левым краі завяршыўся пасам на лінію штрафной, дзе мяч прыняў **Іваноў**, які ўвайшоў у штрафную і прабіў паміж ног галкіпера. Прапусцілі гол са штрафнога – у сапернікаў атрымаўся класны ўдар у далёкую дзевятку метраў з семнаццаці. Пераможны гол правялі ў контратацы: **Селіванаў** перахапіў мяч і аддаў дакладную доўгую передачу на **Шпакоўскага**, які без апрацоўкі ўдарыў з дваццаці метраў у далёкі кут.

Дарыда – Мазыр 1:0, Акадэм-Славія – Баранавічы 2:0, РШВСМ-Алімпія – Вертыкаль 3:1. Вадаканал-Транзіт – Дарыда 3:3, Мазыр – Акадэм-Славія 0:1, Баранавічы – РШВСМ-Алімпія 2:4. РШВСМ-Алімпія – Мазыр 1:1, Дарыда – Вертыкаль 1:1, Акадэм-Славія – Водаканал-Транзіт 2:1.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дарыда | 9 | 6 | 2 | 1 | 18-9 | 20 |
| 2. | РШВСМ-Алімпія | 9 | 4 | 2 | 3 | 14-11 | 14 |
| 3. | Мазыр | 9 | 4 | 2 | 3 | 10-8 | 14 |
| 4. | Акадэм-Славія | 9 | 4 | 2 | 3 | 12-11 | 14 |
| 5. | Водаканал-Транзіт | 9 | 3 | 2 | 4 | 10-13 | 11 |
| 6. | Смаргонь | 9 | 3 | 2 | 4 | 7-11 | 11 |
| 7. | Вертыкаль | 9 | 2 | 3 | 4 | 11-14 | 9 |
| 8. | Баранавічы | 9 | 2 | 1 | 6 | 8-13 | 7 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Спаборніцтвы ў Маларыце

МАЛАРЫТА. Прызёрамі папулярных восеньскіх стартаў у райцэнтры Брэстчыны сярод прадстаўнікоў рэгіёна сталі толькі маладзечанцы.

Традыцыйны марафон. **Галіна Кавалёва** з часам 3:05 была другая ў сваёй узроставай групе (30-39 гадоў) і чацвертая ў абсалютным заліку.

Чэмпіянат краіны на дыстанцыі 15 км. 1. **Ларыса Пятрэнка** (60+); 2. **Дзмітрый Паслед** (да 18); 2. **Васіль Дзярачыц** (19-27).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ




Металург–Верас. У атацы маладзечанец Андрэй Гарнастаеў (нумар 17). Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

# Першая перамога

**07.10 Металург–Верас (Нясвіж) 3:1**

**Суддзі:** Міхаіл Цуканаў (Гомель), Уладзімір Місючэнка (Мінск).

**Галы:** Гружэўскі (10), Янель (31), Сіткевіч (36); Сашчэка (4).

**Склад:** Бахур; Кузняцоў, Максімаў, Сіткевіч, Янель; Гружэўскі, Шаўчэнка, Казяк, Гарнастаеў; Снятко.

**Папярэджанне:** Сіткевіч.

Маладзечанцы пачалі цяжкавата. Аказалася, што хуткасці ў гаспадароў былі далёкія ад аптымальных. Госці ў адной з першых контратак адкрылі лік – у той час знаходзілася другая чацвёрка "Металурга". Яна праз 6 хвілін здолела адыграцца: першы гол на сваёй пляцоўцы забіў **Гружэўскі**.

Астатняя частка першага тайма прайшла з перавагай гаспадароў, але момантаў для таго, каб павялічыць лік, акрамя некалькіх стрэлаў у стойкі варот, не было.

У падобным стылі прайшла першая палова другога тайма. Выхады "Вераса" былі хоць і рэдкія, але небяспечныя. Некалькі разоў выратаваў **Бахур**. Змяніў расклад гол **Янеля** (праз некалькі гадзін яго паўтарыў **Рындзюк** у матчы з Польшчай). Гаспадары кінуліся забіваць і дамагліся свайго. Устанавіў канчатковы лік **Сіткевіч**, які змяніў сваю знешнасць.

Апошнія дзве хвіліны госці атакавалі ўпяцёх – варатар выйшаў у поле – але лік не змяніўся.

**Сяргей Сафонаў** (галоўны трэнер "Металурга"):

– Сказалася тое, што я адсутнічаў у камандзе з–за занятасці ў зборнай. План падрыхтоўкі да сезона не выканалі. Таму кастрычнік будзе месяцам сур'ёзнай работы. Акрамя гульняў чэмпіянату, кожны тыдзень будзем выязджаць у Мінск на спарынгі.

**– Варатары будуць стаяць па чарзе?**

– Усё залежыць ад іх стану. Цяпер **Кіркіж** мае перавагу. Тое, што гуляў Бахур, сказалася на гульні, была відаць няўпэўненасць у абароне.

**– Чаму пастрыгся Сіткевіч?**

– Пра гэта спытайцеся ў яго жонкі. Яна з'яўляецца мадэльерам прычоскі футбаліста.

**– Ці рэальна было ўтрымаць у камандзе Мацюка?**

– Так. Перашкодзіла тое, што не было рашэння фінансавых пытанняў. І цяпер застаецца нестабільнасць у гэтым плане, але спадзяюся на тое, што ўсё вырашыцца добра.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

МЭСР – Дарожнік 2:5, Энергетык – Хемікс 4:4, Віцязь – Гарняк 5:9, Сімург–МАПІД 7:1, РТІ – Белаўтасервіс 3:5.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Сімург | 2 | 6 |
| 2. | Дарожнік | 2 | 6 |
| 3. | Хемікс | 2 | 4 |
| 4. | Гарняк | 1 | 3 |
| 5. | Белаўтасервіс | 1 | 3 |
| 6. | Металург | 2 | 3 |
| 7. | Энергетык | 2 | 1 |
| 8. | Віцязь | 2 | 1 |
| 9. | МАПІД | 2 | 1 |
| 10. | Верас | 1 | 0 |
| 11. | МЭСР | 1 | 0 |
| 12. | РТІ | 2 | 0 |
| | БІДС-БДПА | 0 | |
| | ЦКК | 0 | |

**Бамбардзіры:** Грыневіч – 5; Левус (абодва – Сімург), Дзядзюля (Дарожнік), Васіленка (Хемікс) – па 4; **Янель** і іншыя – па 3.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Заяўка «Металурга»

**Галоўны трэнер** Сяргей Сафонаў (1959).

**Начальнік каманды** Канстанцін Харламаў (1953).

**Урач** Аляксандр Кравец (1955).

**Варатары:** Ігар Кіркіж (1970), Генадзь Бахур (1972), Аляксандр Мялюк (1973).

**Палявыя:** Сяргей Максімаў (1970), Аляксандр Сіткевіч (1972), Аляксандр Снятко (1970), Дзмітрый Янель (1977), Дзмітрый Агейчык (1981), Андрэй Гарнастаеў (1972), Віталь Казяк (трэнер, 1969), Аляксей Шаўчэнка (1972), Валерый Гружэўскі (1970), Аляксандр Макей (1976), Яўген Раманаў (1979), Сяргей Кузняцоў (1973), Максім Грабёнак (1980).

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПАРАЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

# У Сіднэі будзе пяць маладзечанцаў. Фартунаў, Жукоўскі і Шапцябой пазмагаюца за́ медалі, а Шэлег і Панкоў ім дапамогуць.

Па заведзенай традыцыі ўслед за Алімпійскімі Гульнямі адбываецца Паралімпіяда ў інваспорце. На гэты раз у Сіднэі спаборніцтвы пройдуць з 18 па 29 кастрычніка. Адпраўляюцца 24 беларускія спартсмены, сярод якіх 17 лёгкаатлетаў, прычым трое маладзечанцаў, што выступяць сярод слабавідушчых. Разам з прызёрамі мінулых Гульняў **Ігарам Фартунавым** (серабро ў скачках у даўжыню і ў трайным скачку, бронза ў пяціборстве) і **Віктарам Жукоўскім** (па катэгорыі зусім невідушчых бронза ў трайным і ў пяціборстве) таксама паехаў 22-гадовы **Васіль Шапцябой**. Яшчэ адправіліся **Анатоль Панкоў**, памочнік і трэнер Жукоўскага, і наш славуты трэнер **Георгій Шэлег**. Трэцяга чысла былі афіцыйныя праводзіны беларускай каманды, а дзевятага дэлегацыя рушыла па вядомым ужо маршруце Мінск – Франкфурт-на-Майне – Бангкок – Сіднэй. Вяртацца дадому будуць 1 лістапада.

У размовах перад ад'ездам нашы землякі адзначалі пэўную арыгінальнасць сезона, яго расцягнутасць, бо звычайна галоўныя старты бываюць летам. Сёлета з мая пачаліся звышактыўныя зборы з вялікімі нагрузкамі. Настрой зразумелы – выступіць на максімуме магчымасцяў. Задача, як у цэлым для зборнай, так і для асобных спартсменаў, ставіцца выступіць лепш, чым у Атланце.

Напачатку лета падаваліся заявы на ўдзел. На жаль, атрымалася так, што ў некаторых дысцыплінах, дзе нашы маглі б прэтэндаваць на высокія месцы, не сабралася патрэбнай колькасці ўдзельнікаў. Разам з тым, у іншых дысцыплінах шмат новых імёнаў, прычым з высокімі заявачнымі вынікамі. Асабліва ўзрасла канкурэнцыя з боку прадстаўнікоў азіяцкіх краін.

Фартунаў выступіць 20-га ў пяціборстве (асабісты рэкорд – 3056 ачкоў, сусветны – 3180), 22-га і 24-га – у эстафеце 4х400 разам з Жукоўскім, Шапцябоем і пяціразовым пераможцам ранейшых Паралімпіяд, капітанам цяперашняй беларускай зборнай мінчанінам **Алегам Шэпелем** (нашы бягуць за 3,32, а рэкорд свету – 3,27), 26-га – у скачках у даўжыню (мае сусветны рэкорд – 7,34), 27-га і 28-га – у бегу на 200 метраў. Няма ў праграме трайнога скачка і скачкоў у вышыню. Ігар застаўся без золата ў Атланце, так што галоўная задача зразумелая. Найлепшыя шансы ў "даўжыні" і пяціборстве.

Жукоўскі спачатку дапаможа партнёрам у эстафеце, потым 25-га пазмагаецца ў "даўжыні" (асабісты рэкорд – 6,26, сусветны – 6,71), а 28-га – у трайным (асабісты – 12,24, сусветны – 13,45). Пяціборства няма ў праграме.

Шапцябоя 20-га і 22-га чакае бег на 800 метраў, тут ужо і эстафета, а потым 25-га і 27-га – бег на 400 метраў. Дарэчы, у першы дзень правядзення бегавых дысцыплін праходзяць папярэднія старты, а ў другі дзень – фіналы.

Нагадаю, Васіль дэбютаваў на міжнароднай арэне летась на чэмпіянаце Еўропы. Там ён быў чацвёрты на 400 м і на 800 м і трэці з партнёрамі ў эстафеце. Ён родам з Барысаўскага раёна, вучыўся ў маладзечанскім інтэрнаце, па завяршэнні якога вырашыў працягваць займацца спортам пад кіраўніцтвам Георгія Шэлега. Працуе на БелТІЗе. Гэты год атрымаўся для яго вельмі насычаны. У студзені ажаніўся, а зусім нядаўна нарадзілася дачка.



Фота з архіва «РГ».
Васіль Шапцябой.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Турнір «РГ»

Прозвішча, імя ..................
Дамашні адрас ..................
Дата нараджэння .................. Тэлефон ..................
Назва вашай каманды ..................

